# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 33 (1225) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 19 ЖНІЎНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.




На Нарве за Бандарамі будуюць галоўную плаціну Семяноўкаўскага вадасховішча.

РЭПАРЦЁРСКІХ ЗАПІСАК

## ...І ЗАТОПІЦЬ УСЁ ВАДА

Наведаў я вёску Луку ў гміне Нараўка. Звонку яна нічым асаблівым не адрозніваецца ад іншых вёсак Беласточчыны. Паабапал брукаванай вуліцы, сярод старых дрэў раскінуліся звычайныя вясковыя дамы, хлявы і клуні. Адны ўжо прыгорбленыя, уросшыя ў зямлю, ганарацца адмысловай разьбой мясцовых майстроў. Іншыя, як, для прыкладу, дом Мікалая Стоцкага, гэта ўжо прызнак сучаснасці. Трывалыя, аблічаныя на дзесяткі гадоў жыцця, прасторныя мураванкі-асабнякі выяўляюць высакародную веру іх уласнікаў у непахісную будучыню і спакойнае працавітае жыццё. Ёсць тут крама, злеўня малака, клуб і школа. Апошні дом, у якім жыве нядаўна назначаны на сваю пасаду солтыс вёскі, мае нумар 134. Вялікая вёска.

*

І цяжка паверыць, што праз некалькі гадоў ужо не будзе Лукі. Прыдзе вада і ўсё затопіць. Цяперашняя брукаваная вуліца будзе берагам велізарнага штучнага возера, якое змесціць амаль **80 мільёнаў кубічных метраў вады.** Каб сабраць яе ў **столітровых бочках,** трэба было б напоўніць **аж 8 мільёнаў** такіх бочак. Вада затопіць 3 тысячы гектараў наднараўскай даліны. На гэтай тэрыторыі знаходзіцца зараз каля 300 сялянскіх сяліб, з якіх трэба перасяліць людзей. Гэта жыхары Рудні, Боўтрыкаў, Будаў, хутароў Тарнопаля і Лукі, якая з'яўляецца самай вялікай і найлепш загаспадаранай вёскай у гэтым раёне.

*

Яе даўнейшы солтыс, што нечакана памёр сёлета, гаварыў мне калісьці:

— То ж і птушка, і ўсялякае іншае стварэнне божае мае ўласнае гняздо ды пастаянна вяртаецца да яго. А чалавек жа разумнейшы і, як тое дрэва, калі ад маладосці не чуе пад нагамі сваёй роднай зямлі, расці не будзе.

— Нам, старым, — уторыць яму Марыя Саўко, — найлепш было б перасяліцца пад Ляўкова.

— Чаму пад Ляўкова? — пытаю.

— Бо там наш могільнік, — спакойна і зусім усур'ёз гаворыць яна. Сустрэў я яе на лавачцы пад страхой старэнькай хаты. У Луцэ пражыла ўжо больш 50 гадоў.

— Муж мой, — кажа яна, — ужо выбраўся туды... І я б за ім, каб не бачыць усяго гэтага, — і бабулька Марыя паказвае рукой за сябе, дзе пад Бандарамі над рэчкай грукочуць трактары, экскаватары, ды ўсялякія іншыя машыны. Будуюць тут галоўную плаціну, якая перагародзіць рэчышча Нарвы.

— Навошта ўсё гэта? — зноў гаворыць бабулька. — Ці не маглі б зрабіць гэтага заліва, калі ён ім так патрэбны, недзе там, дзе няма людзей?

*

Стаю на мосце за Бандарамі, гляджу на раскапаны бераг ракі, на разрытую глыбокую канаву, у якой быццам працавітыя мурашкі мітусяцца людзі, дзе густой сеткай тырчаць пад неба жалезныя пруты, дзе ўзвышаюцца велізарныя глыбы бетону.

Навошта ўсё гэта? Чаму дзяржава рашыла адвесці амаль 2 мільярды злотых, каб пабудаваць гэтае гіганцкае вадасховішча?

Без вады — ні туды, ні сюды. Каб даць чалавеку, для прыкладу, адзін літр малака, карова вымушана спатрэбіць 8 літраў вады, вядома, разам з кормам ды ўсімі іншымі дадаткамі. І таму больш чым палавіну (дакладна 63%) вады, якая будзе ў гэтым Семяноўкаўскім — як яго ўмоўна называюць — штучным возеры, прызначаецца на тое, каб у засуху, як сёлета ў маі і чэрвені, напаіць лугі і палі, а ў час паводкі, як

Працяг на стар. 4



Сярод старых дрэў раскінулася вёска Лука, якую неўзабаве затопіць штучнае возера.

Новыя вершы

### ЦУД

Ад ручаёў да першае лістоты
Паспешныя вясновыя сляды.
Май раснацветам выбеліць сады,
Напоўніць мёдам у калодах соты.

На полі пад будзільнік жаўрука
Прачнецца ў глебе прагнае карэнне.
Ёсць вечны цуд зямнога паўтарэння
Травінкі кожнай, кветкі, каласка.

І не паверыш, у каторы раз
Збудзіўшы гай світальнаю хадою,
Што гэты свет, пазнаны ўжо табою, —
Вядомага чагосьці пераказ.

І цягнешся да кволага лістка
Заўсёды ў незвычайным захапленні...
Ёсць вечны цуд зямнога нараджэння
Травінкі кожнай, кветкі, каласка.

Мікола Мятліцкі

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## ВАРАНЯНЫ

Гэтая невялічкая вёсачка, што ўсяго 20 гаспадаркамі прысела над далінаю непадалёк рэчачкі Сакалянкі, у якіх 10 кіламетрах па шашы з Саколкі ў Дуброву Беластоцкую, узяла свой пачатак яшчэ ў другой палове XVI стагоддзя. У часе ўпарадкавання гаспадаркі ва ўладаннях вялікага князя літоўскага і караля польскага Зыгмунта Аўгуста паводле славутай „Уставы на валокі" з 1557 года, рассыпаныя дагэтуль па ўскраіне пушчы паселішчы асочнікаў былі сцягнуты ў адно месца і „пасаджаны" ў вёску-вуліцоўку. Новая вёска Воранава (так тады называліся сённяшнія Вараняны) належала да двара ў Пагагніцы, дзе „сядзеў" кузніцкі „падлесны", у якога быў абавязак „спраўляць" дагляд за службаю ўсіх асочнікаў, „прыналежных" да нядаўна выдзеленай з Гродзенскага ляснога масіву Кузніцкай пушчы. Ужо ў 1617 годзе, калі засноўвалася парафія ў Сакалянах, Воранава ўпамінаецца як адна з вёсак, што ўваходзілі ў яе склад. Нейкі след з тых адлеглых часоў астаўся ў традыцыі воранянцаў ездзіць за дрэвам і на працу якраз у „Вялікі лес", як яны завуць цяперашнія мізэрныя рэшткі колішняй Кузніцкай пушчы. Не забылася таксама і карчма, што калісьці знаходзілася ў Сакалянах непадалёк касцёла і „воласці". У ёй і вяршылася ўсё самае цікавае з грамадскага жыцця тутэйшых ваколіц: вяселлі пасля шлюбу ўвальваліся ў яе „падсілкавацца" чымколечы ды „тупнуць" на гліняным памосце „лявоніху"; кум заводзіў куму „пагрэцца" і яны нярэдка цалкам забываліся пра імя, дадзенае іхняму хросніку; пасля прысуду ў валасным судзе заходзілі сюды сяляне „на згоду" і „гадзіліся" пры квартах доўга і часам з такім вынікам, што на наступны дзень зноў ішлі да суддзі са скаргамі на пабоі ды пакалечанні. А і не магло быць інакш у такім „паганым" будынку, дзе ў восеньскія ночы нячысцікі спраўлялі на гарышчы свае гульбішчы, а ведзьма раз-пораз вылятала з коміна на памяле.



Стасько Мельнікаў або афіцыяльна Станіслаў Натуневіч любіць час ад часу ўспомніць пра свой ветрачок.

Праўда, вараняне не часта пераступалі парогі карчмы, яны больш тупалі на сваіх палетках: Брадок, Дзегценіца, Жыдоўшчына, Засёлак, Знога, Камяніца, таўкліся з „броднікамі" або ставілі „бучы" ў сваёй надта ж тады рыбнай Сакалянцы, і пакуль сонца стаяла над тутэйшымі пагоркамі-горамі Вострай, Гродскай, Крукавай, Лужковай і Хвайкавастай, не давалі спачынку працавітым рукам. А яны ў іх заўсёды дбайныя і ўмелыя.

Вось хоць бы возьмем старадаўні „род" Натуневічаў, якіх тут завуць Мельнікавымі, бо недзе ў канцы мінулага стагоддзя згарудавалі яны ладны вятрак. Як успамінае 75-гадовы Станіслаў Натуневіч, таямніцы мельнікавага рамяства ён пераняў ад свайго бацькі. „Надта ж дбалі мы пра свой ветрачок, — кажа. — Тады на грош было надта цяжка, а жыць жа трэба. Ну і стараліся мы рабіць муку і разовую і сітную, бы пух той. Не кажыце! Завозна было, аж люба воку глянуць. Людзі ехалі з усяе ваколіцы, нават з-пад Саколкі. Але ўсё ладзілася, калі быў роўны вецер. Ён, бывала, зімою з усходу такі дзьмуў цэлымі тыднямі. Тады для нас і дзень і ноч усё ў ветраку: засыпай зерне ў коўш ды аднось пукатыя мяхі

Працяг на стар. 4

**—Niwa—**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1389. Nakład 6400 egz. S-2


**МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ**



# РЭЖЫСЁР З ТРАКТАРНАГА

Пераўвасабленне самога сябе ў іншую постаць заваражыла яго бадай яшчэ ў родным сяле Турск, што на Гомельшчыне. З паблажлівай усмешкай, але і з пэўным задавальненнем ён прыгадвае, як яму, тады малышу-першакласніку, удалася роля ў навагоднім прадстаўленні. І ад таго часу па сённяшні дзень ён не пакінуў ігры на сцэне. Ужо дарослым чалавекам паступіў у 1965 годзе ў тэатральную студыю пры Палацы культуры Мінскага трактарнага завода, стаў акцёрам у аматарскім тэатры ў гэтым жа палацы і пачаў працаваць рабочым-шліфоўшчыкам на тутэйшым заводзе. І ўсюды паспяваў, з усім спраўляўся. На працы каля станка прыбывала яму вопыту, наступалі павышэнні, павялічваліся заробкі. У авалоданні ведамі і ўменнямі — пасля тэатральнай студыі ён выдатна заканчвае вячэрняе аддзяленне Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. На сцэне ж за 14 год яму давялося спазнаць усё — ад найменшай ролі і да цяперашніх абавязкаў кіраўніка тэатра і рэжысёра-пастаўшчыка. І аж не верыцца, што прайшоў такое гэты сімпатычны малады чалавек са звадыяшскай усмешкай пад пушыстым вусікам. Такі вось ён — **Мікалай Макаравіч Шутаў** — галава і сэрца Народнага тэатра пры Палацы культуры Мінскага трактарнага завода.

З ім мне ўдалося сустрэцца ўсяго на паўгадзіны перад спектаклем, прыглядзеўся я да яго постаці дакладней у ролі Дзюларана на сцэне і меў неабмежаваную магчымасць пазнаёміцца з уласцівым яму стылем працы і творчым талентам на прыкладзе пастаўленай ім жа гістарычнай драмы-хронікі Е. Міровіча „Кастусь Каліноўскі“. П'еса не належыць да лёгкіх. Яе аўтар прадставіў тут самыя напружаныя і трагічныя моманты з дзейнасці нашага нацыянальнага героя. У п'есе выступаюць прадстаўнікі розных асяроддзяў: царскі генерал-губернатар, каталіцкі епіскап, кіраўнікі і радавыя ўдзельнікі паўстання 1863 года на Беларусі і Літве, салдаты царскай арміі, звычайныя беларускія сяляне. Кожная постаць — свой уласны свет. Раскрыць усё гэта ў поўным святле — трэба высокага сцэнічнага майстэрства. І гэтае майстэрства відаць у кожным руху, жэсце і слове акцёраў.

Вядома, такія ўменні не прыходзяць самі і не праяўляюцца адразу. Тэатр на трактарным — так яго называюць у Беларусі — мае багатую традыцыю. Паўстаў і развіваўся ён разам з заводам. Спачатку, у 1946 г., як драматычны гурток з аднаактовымі п'есамі ў цесненькім пакойчыку. Разрастаўся завод, павялічваўся і ўмацоўваўся яго працоўны калектыў, расло ў ім зацікаўленне мастацтвам — павышаліся таксама акцёрскія амбіцыі самадзейнікаў. У 1950 г. яны ўжо ўдала ставяць паважны твор — „Маскоўскі характар“ А. Сафронава. Спектаклем „Папараць-кветка“ І. Козела ў 1959 г. заваёўваюць першае месца сярод драматычных калектываў Беларусі. Праз чатыры гады здабываюць ганаровае званне народнага тэатра. Ужо не лёгкія п'есы-аднаактоўкі ці скетчы, але вялікія класічныя тэатральныя творы А. Астроўскага, А. Чэхава, М. Пагодзіна, Ж. Мальера, Б. Брэхта, Б. Гарбатава і іншых выдатных драматургаў стала ўваходзяць у іх рэпертуар. І натуральна — пільная ўвага прысвячаецца беларускай драматургіі: з вялікай дбайнасцю яны ставяць „Раскіданае гняздо“ і „Паўлінку“ Я. Купалы, „Вайну вайне“ Я. Коласа, „Мікітаў лапаць“ М. Чарота, „Чырвоныя кветкі Беларусі“ В. Гарбацэвіча, п'есы Я. Рамановіча, П. Васілеўскага і іншых беларускіх аўтараў.

І ўжо не ў рабочай святліцы на хісткім ды скрыпучым подʼюме, але на нармальнай тэатральнай па-навейшаму абсталяванай сцэне перад залай з паўтары тысячамі тэатральных крэсел у партэры і на балконах. Словам, гэта ў тэатры Палаца культуры, які нічым не ўступае іншым прафесіянальным тэатрам горада Мінска. І зусім заслужанае павышэнне. Бо за трыццаць з лішнім год свае дзейнасці аматары з трактарнага паставілі больш 60 твораў, далі звыш 5 тысяч прадстаўленняў, іх наведала болей 600 тысяч гледачоў! Таму і не дзіва, што калектыў гэты мае дзесяткі самых высокіх узнагарод ад дзяржавы і розных арганізацый: ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета БССР, Міністэрства культуры БССР, Цэнтральнага камітэта Камсамола, дыпломы, прызы, памятныя падарункі з усіх гарадоў Беларусі, з Масквы, Кіева, Вільнюса, з калгасаў і акіянскіх караблёў. У 1977 г. ён становіцца лаўрэатам I Усесаюзнага фестывалю самадзейнай мастацкай творчасці працоўных. І ва ўсім гэтым ёсць значная частка самаахвярнай працы самога Міколы Шутава.

**(Працяг на стар. 4)**

### *КАЛЯНДАР*

**160 гадоў назад**

19.8.1819 пам. Дж. Уат, англійскі вынаходнік. Працаваў над удасканаленнем паравых машын. Ад імя У. паходзіць назва адзінкі вымярэння магутнасці ў сістэме СІ — ват.

**35 гадоў назад**

23.8.1944 — баявое хрышчэнне 1-га палка знішчальнай авіяцыі „Варшава“ (пад Варкай). Нараджэнне Польскай народнай авіяцыі.

* * * * * * * * * * *

*21.8.1909 пецярбургская „Ніва“ пісала: Адначасова і на Захадзе і на Усходзе ўзнікла грозная небяспека для міру. Два пытанні прадвяшчалі блізкую магчымасць двух крывавых войнаў: японцы не паладзілі з кітайцамі з-за перабудовы на шырокую калею Андукскай чыгункі, а туркі не паладзілі з грэкамі з-за Македоніі і Крыта.*

### ХРОНІКА

26 VII 79 у Варшаве група асабліва заслужаных дзеячоў нацыянальных грамадска-культурных таварыстваў з нагоды 35-годдзя ПНР атрымала дзяржаўныя ўзнагароды. Сярод іх узнагароджаны былі: Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы — старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік, Бронзавым Крыжам Заслугі — член ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч. Узнагароды ўручыў намеснік старшыні Агульнапольскага Камітэта Фронту Адзінства Народа Віт Драпіх.




**Аб новай праграме навучання беларускай мовы ● Лекар з Кляшчэляў ● Дзядзька Максім аб куску хлеба ● У арлянскім бары ● Размова з Барысам Сачанкам ● Слядамі апошняй вайны ● Працяг дыскусіі аб моладзі ● Весткі з Нараўкі, Гайнаўкі, Чаромхі, Москаўцаў, Бельска, Стараберазова, Дубіч Царкоўных, Целушак, Шудзялова ● Аб чым думае Кастусь раніцай ● Песня „Палюшко“.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 19 VIII** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Ekran Wspomnień: Irena do domu. 12.30 Dziennik. 12.45 Rolnicze rozmowy. 13.15 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek 20 VIII** — 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kino Zwierzyńca. 17.00 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.30 Ekran Wspomnień: Zobaczymy się w niedzielę. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV. Ewa Bober, Wojciech Solarz Prawo głosu — cz. I. 21.50 Beethoven — nasz współczesny. 22.35 Dziennik. 22.50 W minutę po premierze.

**Wtorek 21 VIII** — 15.25 Program dnia. 15.30 Pasje St. Latoura. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Bractwo żelaznej szekli. 16.50 Interstudio. 17.20 Sonda. 17.45 Viki syn Wikingów, odc. XII pt. Wyzwolenie. 18.10 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.40 Wyst. amb. Rumunii. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Kaskader — radz. film fab. 21.35 Świadkowie. 21.55 Camerata. 22.20 Dziennik. 22.35 Sport.

**Sroda 22 VIII** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Nauki polit. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Pan Półka i spółka. 16.55 Los. Małego Lot. 17.05 Dom i my. 17.20 Klinika zdrowego człowieka. 17.45 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.10 II połowa meczu w piłce nożnej Polska—Jugosławia. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Festiwal — Sopot 79. 21.25 Dziennik. 21.40 Festiwal — Sopot 79. 23.20 Mistrzostwa świata w kolarstwie.

**Czwartek 23 VIII** — 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Skarbiec. 18.00 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Poligon. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Festiwal — Sopot 79. 21.25 Dziennik. 21.40 Festiwal — Sopot 79. 23.20 Pegaz.

**Piątek 24 VII** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT Nauki polit. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kot w butach — film anim. 16.50 Magazyn motor. 17.20 10 minut — teletur. 17.30 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.00 Akcja V — odc. IV pt. Specjalne, wigilijne danie. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Festiwal — Sopot 79. 21.25 Dziennik. 21.40 Festiwal — Sopot 79. 23.20 Świat, ludzie, idee.

**Sobota — 25 VIII** — 12.45 Program dnia. 12.50 Mistrzostwa świata w kolarstwie. 13.20 Radzimy rolnikom. 13.30 Mistrzostwa świata w kolarstwie. 13.40 Obiektyw. 14.00 Mistrzostwa świata w kolarstwie. 14.20 Dziennik. 14.30 Magazyn Lotniczy. 15.00 Mistrzostwa świata w kolarstwie. 15.10 Spotkanie z Vilinkiem. 16.00 Mistrzostwa świata w kolarstwie. 16.15 Latarnia czarnoksięska. Rapsody Miklosa Jancso. 16.45 Mistrzostwa świata w kolarstwie. 17.30 Gwiazdy na czapkach — węgiersko-radz. film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Wczoraj, dziś, jutro — włosko-franc. film fab. 22.30 Dziennik. 22.45 Finał Pucharu świata w lekkiej atletyce.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 17 VIII** — 8.50 Film fab. ser. 16.00 Koncert. 18.50 Film fab. ser. 22.10 Sport.

**Sobota 18 VIII** — 8.35 Film fab. ser. 15.40 Koncert. 16.25 Nie do wiary. 17.25 Film anim. 18.20 Film fab. Piotr I cz. 1. 20.35 cz. 2

**Niedziela 19 VIII** — 12.30 Spektakl. 14.25 Cyrk. 15.05 Klub podróżników. 16.20 Koncert. 17.00 Panorama międzynar. 17.45 Film anim. 18.25 Wieczór humoru. 20.35 Koncert. 21.20 Sport.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Sędzia Fayard zwany szeryfem — fr. 21—22. One dwie — węg. 23—24. Próba ognia i wody — pol. 25—26.

**Bielsk Podl.** Mistrz kierownicy ucieka — USA 20. Ucieczka z więzienia — radz. 21—22. Stawiam na trzynastkę — czes. 26.

**Czeremcha** Na tropie Wilbyego — ang. 21—22. Wezwij mnie w świetlaną dal — radz. 25—26.

**Czyże** Jak się budzi królewny — czes. Nie wychylać się — jug. 22—26.

**Gródek** Sędzia Fayard zwany szeryfem — fr. 25—26.

**Hajnówka** New York, New York — USA 20. Pasja — pol. 21—22. Ostatnie zadanie — USA 23—24. Wojenka, wojenka — rum. 25—26.

**Michałowo** Odrażający, brudni, źli — wł. 21—22. Samotny detektyw — USA 23—24. Słoneczny pył — radz. 25—26.

**Mielnik** Krótkie wakacje — wł. 22. Niedokończony utwór na pianolę — radz. 25—26.

**Milejczyce** Ostatni z Fleksnerów — norw. Kryjówka — NRD 22—26.

**Narew** Biały Mazur — pol. Gęsiorek Maciek — węg. 22—26.

**Narewka** Colargol zdobywcą kosmosu — pol. 22—26.

**Nurzec** Weronika — rum. 21—22. Ciepło — bułg. 23—24.

**Orla** Cienie gorącego lata — czes. Narodziny gwiazdy — USA 22—26.

**Rajsk** Adela jeszcze nie jadła kolacji — czes. Chłopiec z burzy — austral. 22—26.

# ЭКЗАМЕН

Калі збярэцца хаця пятнаццаць ахвотных, будзем весці ў вас. Запісалася амаль трыццаць і, такім чынам, курс на кваліфікаванага земляроба стрыкаўляне мелі на месцы, у Стрыках. Потым дапісаліся людзі з другіх вёсак — Аўгустова, Налогаў. Сабралася больш паўсотні чалавек — старэйшыя, маладыя. Назначылі настаўніцу і зімою распачалі вучобу. Настаўніца даязджала з Бельска. Вучыліся шчыра, як сабе, запісваючы кожнае слова ў спецыяльныя сшыткі. Курс адбываўся вечарамі, два разы ў тыдзень. Часта трэба было бегчы проста ад дабытку, не паспеўшы нават павячэраць. І так цэлую зіму, вясну.

Экзамены назначылі на 26 мая, на палову першай. У вёсцы прыўзняты настрой. „Вучні" хвалююцца. Настаў час разліку са здабытых ведаў. У кожнага ў сэрцы драбінкі страху — здаць бы хаця, каб не быць горшым за суседа.

Працы не было ўжо ад раніцы. Неяк не спорылася. Каля клуба рух. Што нейкі час нехта выглядае на вуліцу — можа ўжо едуць. Спазніліся, але прыехалі. Солтыс прывёз сваёй машынай. Якраз быў у Бельску і сустрэў настаўніцу. Папрасіла і прывёз.

— Прыехалі, прыехалі, — загаварылі ў клубе.

Вырашылі мігам — трэба даць паабедаць, можа лепш пойдзе. А тым больш, што да гэтага падрыхтаваліся.

— Ну, бо падумайце самі, — гаварылі, — столькі працавалі, столькі вучыліся і тут насталі экзамены. Хто з нас калі думаў, што будзем на старасць здаваць яшчэ нейкія там экзамены. Як тут не пагуляць, не павесяліцца. Ад сёння ж мы з дыпломамі!

Камісія складалася з трох чалавек: дзве жанчыны і мужчына, старшыня. Усе з напружаннем чакалі пачатку. І раптам старшыня камісіі выняў спісак і, вычытаўшы семнаццаць прозвішчаў, заявіў, што астатнія да экзаменаў не дапушчаны. На прысутных быццам нехта вадой халоднай паліў. Аж раты са здзіўлення параздзяўлялі ды спаглядалі то адзін на аднаго, то на камісію, то зноў на настаўніцу, якой кроў чырванню шчокі падмалявала. А старшыня, вычытаўшы дапушчаных, паведаміў, што астатнія або не выкупілі поўнасцю угнаенняў, або не закончылі чатырох класаў падставовай школы, што было ўмовай заканчэння курсаў і атрымання дыплома.

— Але ж мы нічога не ведалі, — зашумела згодна зала. — Калі б што, дык мы ж бы выбралі, ды і класы папоўнілі.

— Такі закон і мушу яго прытрымоўвацца, — развёў рукамі старшыня камісіі.

— Дык можа мы здамо, а потым выкупім, — прасілі.

Але закон законам — і мовы быць не магло. Некаторыя зразумелі, іншыя яшчэ пляваліся, тым больш, што частцы з іх вельмі мала не хапала да нормы. Чаму не сказалі адразу? Цэлая зіма, вясна, хапала ж часу, каб усё папоўніць. З пытаннем і надзеяй у вачах глянулі на сваю настаўніцу, якая, чуючы за сабой віну, пачала падбіраць карысныя апраўданні.

— Я думала, каб вас не клапаціць, што ўсё сама афармлю. І афарміла. Але гэта солтыс, напэўна ён, везучы экзаменатараў, набунтаваў іх, — тлумачыла, шукаючы віноўніка свайго недагляду.

Зрадзіўся новы канфлікт. Калі так кажа настаўніца, дык чаму не верыць.

— І магчыма, што некаторыя паверылі. Сапраўды, я ж іх вёз. Найлягчэй зваліць віну. Толькі які мне сэнс, мне, солтысу, адказнаму, як не ёсць, за сваю вёску, паскудзіць на свой панадворак. Ды і другое, я ж стараўся, каб гэты курс адбыўся ў нашай вёсцы, — гаворыць.

Так, як гаворыць народная мудрасць, найлягчэй заграбаць жар чужымі рукамі. Толькі ёсць і другая праўда — калі вучань атрымлівае двойку, можна лічыць, што тупы, або няроб, але калі большасць класа — трэба памяняць настаўніка.

**М. Шаховіч.**

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

# Госць у дом...

Спрадвеку ўвайшло нам у кроў, што **„госць у дом — Бог у дом"**. Так нас вучылі дзяды-прадзеды і доўгі час мы ў вёсках зачынялі свае хаты на замок або на засаўку толькі тады, калі ў наваколлі паяўлялася група цыганоў. Цыганамі, як чортам, нават дзяцей палохалі. Але ўсіх іншых людзей віталі мы, памятаю, заўсёды адкрытымі дзвярыма і сякім-такім пачастункам — **„чым хата багата, тым рада"**.

Першы ўрок па адносінах да чужых і незнаёмых атрымалі мы зараз жа пасля вайны. Быў тады адзін такі лясны бандзюга, „Буры" па клічцы, а па прозвішчу Рамуальд Райс. Душагуб пракляты! Рассылаў па нашых вёсках сваіх адурманелых бандзюгаў ды загадваў ім паліць, знуткавацца і грабіць усё, што пад рукі папала. Людзей жыўцом палілі. Навучылі нас, што чалавек чалавеку можа быць і чортам. Я сабе, памятаю, абсталяваў тады нават двайную жалезную застаўню і пастараўся, каб у нашай вёсцы завялася армоўская арганізацыя, каб далі нам зброю, каб адстаяць сваю свабоду.

З часам, з гадамі мы забылі аб гэтым і зноў пачалі прыхільна глядзець на ўсіх людзей. Але цяпер іншая небяспека навісла над намі.

Месяц або два таму назад вярнуўся я з поля, якраз бульбу абворваў і стонку глуміў. Палашка падсунула міску гарачага супу. Ажно хтосьці стукае ў дзверы.

— Заходзьце, калі ласка, адкрыта, — адазвалася Палашка і на парозе паявілася высокая, чарнявая жанчына. Акінула мяне нейкім баязлівым позіркам, але зараз жа засмяялася, бліснула залатымі зубамі і апавясціла, што яна турыстка, прыехала з далёкай Югаславіі, што па дарозе здарылася з ёй няшчасце ў цягніку, абакралі яе, хтосьці сцягнуў сумку з дакументамі і грашыма, калі прыснула.

Тут яна ўголас расплакалася, залілася горкімі слязьмі і яшчэ больш жаласліва загаласіла:

— Вось па вёсках мушу хадзіць, міласціну прасіць...

Палашка хуценька выцерла дачыста крэсла і пасадзіла бедную турыстку за стол, каб супам разам са мною падсілкавалася, а ў суп гэты яшчэ дакінула госцю вялізны кусок цяляціны.

— А можа вы, людзі добрыя, захацелі б ад мяне што-колеч купіць? — заявіла турыстка. — Вось гэты персцень або ланцужок, — і яна пачала знімаць з сябе свае бліскоткі. — Гэта ўсё, што ў мяне асталося. Золата загранічнае, высокай вартасці, — гаварыла яна. — Прадам вам ніжэй цаны, каб толькі сабраць крыху грошай на дарогу, каб дамоў вярнуцца, — і яна зноў расплакалася, як дзіця. — Па дзве тысячы вам прадам за штуку. Вазьміце ў руку, пабачыце, якія цяжкія гэта вырабы. Калі ласка. Тут проба.

Палашка нават да акна падышла, каб дакладней разгледзець прапанаваныя нам ювелірныя вырабы. Персцень быў з вялікім бліскучым чырвоным каменем, а ланцужок — тоўсты, з крыжыкам, упрыгожаным блакітнымі каменьчыкамі.

— Нашай Бэатцы прыдаўся б такі крыжык з ланцужком, — заявіла Палашка, звяртаючыся да мяне. Хутка ж ёй споўніцца пятнаццаць год. Можа купім?

— Так, так, купіце, абавязкова купіце! — загаварыла зноў турыстка. — Хай дзіцё носіць знак божы на сэрцы, хай ведае, што ангел-спасіцель сцеражэ...

— Не, дзякую, — абрэзаў я яе. — Золата нам непатрэбнае, мы век без яго пражылі...

— То можа купончык на касцюм, — зашчабятала наша госця. — Паглядзіце, поўны адрэз. Арыгінальнае англійскае сукно, вось нашыўка „Мадэ ін Энглянд". Прачытайце самі і знак „Вуль марк", што значыць сукно вышэйшай якасці. У вашых крамах я такога не бачыла. Па 500 злотых за метр, каб толькі прадаць...

Суконны адрэз сапраўды прыдаўся б мне на касцюм, але не спадабалася мне нахабнасць гэтай турысткі. Даў я ёй 20 злотых, каб адчапілася і пажадаў шчас-

**(Працяг на стар. 5)**

НА КУЛЬТУРНАЙ НІВЕ

# У ДУБІНАХ

Восьмы год Вікторыя Койла (дзеяч Фронту адзінства народу і ЗСЛ) вядзе клуб селяніна ў Дубінах у Гайнаўскай гміне. Разам з Баляславай Арлоўскай, якая з'яўляецца кіраўнічкай гміннай публічнай бібліятэкі, арганізуюць конкурсы ведаў на розныя тэмы, між іншым, на юрыдычныя тэмы, сустрэчы моладзі з міліцыянерам, сустрэчы маладых матак з медсястрой, шматлікія культурна-асветныя мерапрыемствы. У бягучым годзе ўрачыстыя святкаванні адбыліся з нагод: Новага года, Дня жанчын, Дня дзіцяці, Першамая і іншых.

Пры клубе дзейнічае дзевяціасабовы мастацкі калектыў: дзявочы хор і аркестр. Душой яго з'яўляецца Уладзімір Койла, музык і фатограф. Моладзь выканала арыгінальныя дэкарацыі клуба — багата тут розных пушчанскіх элементаў. Арганізуе яна танцавальныя вечарыны. На сцэне выступаў ляўкоўскі хор „Цаглінкі". Дзеячы ФАН заініцыявалі пабудову студні ля клуба на яго патрэбы.

Жаночы гурток (КГВ) налічвае тут 106 асоб. Ён з'яўляецца адным з актыўнейшых вясковых грамадскіх арганізацый. Кабеты арганізавалі курсы: кройкі і шыцця і вяндлінярскі. У доме Надзеі Гіншт ёсць КГВоўская пазычальня настольнага посуду. Закончыўся курс грамадска-палітычных ведаў першай ступені. Удзельнічала ў ім 35 жанчын. Найбольш паспяхова закончылі яго Ніна Аверчук, Валянціна Грэдаль і Ніна Гіншт. Гмінная сельскагаспадарчая служба вяла тут курс кваліфікаванага гаспадара. Удзельнічала ў ім сорак асоб, пераважалі жанчыны. Экзамен здавалі некаторыя сяляне нават з суседніх вёсак.

У дубінскім клубе селяніна дзейнічае прадшкольнае агніска. Апрача таго дзеці, якія любяць маляваць, займаюцца ў гуртку для юных жывапісцаў і разьбяроў. Найлепшыя малюнкі і фігуркі з гліны або пластэліну выбіраюцца на ўнутраную і гмінную выстаўкі. **(яц)**




У мінулым годзе Беласток павялічыўся амаль на шэсць тысяч жыхароў. На 100 мужчын выпадала 106 жанчын (жанчын было больш на шаснаццаць тысяч). У 1978 годзе пажанілася каля 2 200 пар. Нарадзілася 7 200 дзяцей, больш хлопчыкаў.

У першай палавіне бягучага года нарадзілася 3.843 дзяцей, дзяўчынак было больш, чым хлопчыкаў. У тым самым часе пажанілася 1 026 пар.

Зараз Беласток налічвае звыш 215 тысяч жыхароў (пражывае ў ім каля 65% усяго гарадскога насельніцтва ваяводства). Тэмп росту насельніцтва Беластока вялікі, на працягу апошніх дваццаці гадоў лік жыхароў падвоіўся.

Беласток хутка разбудоўваецца. Ужо каля 70% яго насельніцтва жыве ў новых жыллёвых пасёлках. **(яц)**



**У нашым аб'ектыве:** *Музычны калектыў з міхалоўскага Дома культуры: Я. Цімох, Я. Рыбінскі, К. Грыневіч і С. Грыневіч.* *Фота М. Гайдука*

### СПІ, СЫНОК...

Спі, сынок, і расці на славу! Твае бацькі задбалі, каб ты мог спакойна дарастаць да ролі наследніка. Марыя Галёнка і яе муж Мікалай з Пасечнікаў Вялікіх ужо некалькі гадоў таму назад пабудавалі прасторную абору на 20 красуль з цялятамі і распачалі, такім чынам, спецыялізацыю.

Фота **В. Рудчыка**



М. ШАХОВІЧ

## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**грушэвнік** — кампот, навараны з сушаных груш. Возьмі грушэвніку напіся. Булку грушэвніком попі.

**залупа** — адмоўнае акрэсліванне чалавека крышку вульгарнае. Гавораць так найчасцей на чалавека, брыдкага знешне, але з поўным тварам, крыху скрыўленага. Часта, каб яшчэ больш усё ўвыпукліць, выступае ў форме павелічальнай — **залупіско.** Як ужэ Іван залупіско ўзяў! Хто з такою залупою бавітися будэ?!

**запорожніці** — гэта тыя ўдзельнікі вяселля, якія не былі запрошаныя, але прыходзілі на вяселле паглядзець. Вынэсі запорожніцям коровая. Потым заспявалі запорожніці.

**повівач** — доўгі, шырынёю ў далоню, сшытая палоска палатна, якім авівалі па пялёнках малое дзіця, раз — каб не раскручвалася, а па-другое — каб мела прамыя ногі. Оно повівачом нэ забудь закрунуті. Подай повівач, там на пэчыэ сохнэ.

**цыбульнік** — вывар з сухіх лісткоў цыбулі, у якім красілі на Вялікдзень яйкі. Ныма фарбы, то в цыбульнікові накрасімо. Нэ вылівай шчэ цыбульніку.

*(Збуч, гміна Чыжы).*

## Разведка ГАСПАДАРНАСЦІ

Наведалі мы 28 ліпеня бягучага года гмінны цэнтр культуры, клуб прэсы і кніжкі і гмінную публічную бібліятэку ў Орлі. Усё было наглуха закрыта, усё пад замком і нідзе ні следу нават карткі з інфармацыяй аб гадзінах працы спамянутых установ. Для нас астаецца таямніцай, ці ўвогуле іх адкрываюць. А можа яны арлянцам непатрэбны? **(яц)**




SEWERYN KRAJEWSKI

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Каханы Астроне! Прыснілася мне, быццам у маёй сяброўкі мае быць вяселле, а я прыехала да яе ў той час. Мы з ёю пайшлі запрашаць людзей на вяселле. Мая сяброўка была ў гумовых ботах, а я ў туфлях. Па дарозе было многа вады, сяброўка без клопату перайшла праз ваду, а я мела клопаты, але перайшла. Мы быццам зайшлі ў другую вёску да сваякоў сяброўкі, але мы іх не запрашалі, а сяброўка стала шукаць есці. Потым мы спаткалі незнаёмых хлопцаў, але дадому вярнуліся адны. Што абазначае гэты сон?

А. з Беласточчыны

**А. з Беласточчыны!** Можаш мець нейкія клопаты з сяброўкай. Аб гэтым сведчыць тое, што ты пайшла разам з ёю запрашаць людзей на вяселле, ды і тая вада на дарозе, якая стала перашкодай для цябе. Можа, пасварыцеся, але вынікнуць нейкія непаразуменні ў выніку твайго непрыстасавання да сітуацыі. Не хвалюйся, аднак: усё павінна скончыцца добра, вы ж і на вяселлі, уласна кажучы, не былі, ды і праз тую ваду ты ўсё ж перайшла, хаця была толькі ў туфлях.

**Астрон**

## ЦІКАВІНКА

Шматлікія археалагічныя знаходкі зроблены ў самым вялікім з адкрытых ў паўднёва-ўсходніх Каракумах старажытных паселішчаў Ганур-Дэпе. На думку вучоных, тут знаходзілася сталіца старажытнай краіны Маргіяны. Археолагі раскапалі грамадскія будынкі, палацы, храмы. Ранейшую назву сталіцы старажытнай краіны — Марг — археолагі звязваюць з назвай ракі Мургаб, якая працякала непадалёку. На працягу стагоддзяў рэчышча ракі перамяшчалася на паўднёвы захад. Знікала вада, а разам з ёй і жыццё. На месцы квітнеючых гарадоў і сёл Маргіяны засталіся толькі пагоркі.




Два гады як я выйшла замуж. Абое працуем, але жывем на вёсцы ў маіх бацькоў, бо яшчэ не маем у горадзе кватэры. У гэтым годзе пастанавілі мы разам паехаць адпачываць, але мама не згадзілася пільнаваць дзіця, бо якраз многа працы ў полі. Вырашылі, што муж паедзе адзін. На „вчасах" была таксама мая сяброўка з працы. І яна прыслала мне пісьмо, у якім пісала, што муж мой паводзіць сябе як кавалер, звязаўся там з нейкай дзяўчынай. Я расплакалася, расказала ўсё маме. Але мама мая любіць зяця, заўсёды гаворыць, што гэта талковы і парадачны хлопец і цяпер стала яго бараніць. Праўда, гэтая сяброўка мае доўгі язык і любіць плёткамі займацца. Мужа я ніколі не падазравала ў здрадзе, ён вельмі любіць дачушку і ўвогуле жывем мы згодна. Ну, але думаю, хай толькі прыедзе! Як заўсёды, увайшоў, весела ўсміхаючыся, сардэчна прывітаўся, а я нахмураная. Доўга я маўчала, а пасля ўсё сказала. Муж запярэчыў гэтаму так шчыра, што я ўжо і паверыла яго словам. На другі дзень сяброўка на рабоце гаварыць са мною не захацела, толькі сказала: я табе напісала, а ты як сабе хочаш. Я зноў знервавалася.

Эля з Бельшчыны

**Эля!** Каму верыш — мужу, ці сяброўцы-пляткарцы? Той, хто бегае за дзяўчатамі ды здраджвае жонцы, не мусіць выязджаць на „вчасы". Гэта можна і дома. А мо сяброўка праз зайздрасць, што вы жывеце згодна, захацела вас парозніць...

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: А. мае няшлюбнае дзіця. Яна хоча падаць у суд на Д., бацьку дзіцяці, каб плаціў аліменты. Д. смяецца з гэтага і гаворыць, што хоць суд яму аліменты і прысудзіць, і так з яго нічога не возьмуць, бо гаспадарка належыць да бацькоў, а ён нідзе не працуе. Ці можна патрабаваць аліментаў ад яго бацькоў, на гаспадарцы якіх Д. працуе? Ці можна паклікаць у суд адных бацькоў, ці разам з імі Д.?

АДКАЗ: Аліментаў можна патрабаваць пасля таго, калі суд установіць, што Д. з'яўляецца бацькам дзіцяці. Таму найперш трэба выступіць у суд з такім патрабаваннем. Адначасова з гэтым трэба патрабаваць ад яго аліментаў. У гэткім працэсе ніхто апрача маці і бацькі дзіцяці браць удзел не мае права. Велічыня аліментаў залежыць ад патрэб дзіцяці і ад заработных і маёмасных магчымасцей абавязанага. Таму, калі хто не працуе і не мае маёмасці, суд, прысуджваючы аліменты, бярэ пад увагу зарплату, якую ён мог бы атрымаць, калі б працаваў. Калі б прысуджаныя аліменты нельга было сыскаць з Д., маці дзіцяці як яго прадстаўніца можа патрабаваць праз суд, каб плацілі аліменты бацька і маці Д. Калі б Д. злосна ўхіляўся ад аліментаў, можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.



**Па роднай зямлі.** *Царква ў Каралёвым Мосце.* *Фота: С. Рыбі.*




ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Стравы з капусты-брусселькі

### ВАРАНАЯ КАПУСТА

На 40 дэкаў брусельскай капусты ўзяць 40 грамаў масла, 1 лыжку цёртай булкі, соль, цукар.

Малыя качанчыкі дакладна памыць і зварыць у вялікай колькасці пасоленай і пасалоджанай вады, адцадзіць. Паліць маслам, разагрэтым разам з цёртай булкай.

### АМЛЕТ З БРУСЕЛЬКАЙ

На 3 яечкі бярэм 15 дэкаў капусты, соль, цукар, 4 дэкі масла.

Зварыць капусту. Яечкі ўбіць у міску і лёгка збіць з двума лыжкамі малака ці смятаны, пасаліць па смаку. Звараныя качанчыкі капусты парэзаць на чвэрткі і дадаць да яечнай масы. На патэльні разагрэць палову тлушчу, уліць яечкі. Патрасаючы патэльняй, зліваць масу на бакі, згартаючы відэльцам на сярэдзіну падсмажаны амлет. Палажыць на амлет рэшту тлушчу, згарнуць яго, парэзаць на тры порцыі.

### СУП З БРУСЕЛЬКІ

Узяць валашчыну, 25 дэкаў брусселькі, паўшклянкі смятаны, лыжку мукі, лыжку масла.

Абабраную валашчыну палажыць у кіпячую ваду і варыць каля 10 мінут, дадаць брусельку і разам варыць яшчэ 10 мінут. Мягкую гародніну працерці праз сіта або прапусціць праз мясарубку, пакідаючы некалькі цэлых галовак капусты. Заправіць суп смятанай з мукою, дадаць тлушч, закіпяціць.

Падаваць суп з грэнкамі з белай булкі, кладучы ў кожную талерку па 2-3 галоўкі непрацёртай капусты-брусселькі.

### САЛАТА З БРУСЕЛЬКІ

На 30 дэкаў брусселькі ўзяць 1 кіслы агурок, 1 зубок часнаку, 5 дэкаў алею, 1 чайную лыжку муштарды.

Брусельку палажыць у кіпячую ваду, пасоленую і пасалоджаную, абварваць капусту мінут шэсць, пасля чаго адцадзіць, астудзіць, пасыпаць вельмі дробна нарэзаным кіслым агурком. Ачышчаны часнок дробна пасячы і расцерці з соллю. Змяшаць яго з муштардай і алеем і паліць салату.

Гэта салата вельмі смакуе з крутымі яечкамі. Можна зрабіць гэткую вячэру.

**Гаспадыня**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




### ПАД ПРЫКРЫЦЦЁМ НОЧЫ

Старшы сержант Максім Папоў пачухаў за вухам. „Што рабіць з гэтым надакучлівым фрыцам? — думаў ён. — Ужо трэці раз прыходзіць у камендатуру. Відаць, жыцця яму няма без гэтых кансерваў. Яно, вядома, зразумела, ляжаць у зямлі амаль пяць месяцаў, сапсавацца могуць".

— Я не магу рашаць, — адрэзаў ён пасля доўгага роздуму. — Прыйдзіце ў 15.00, калі будзе камендант.

Немец ліслíва пакланіўся некалькі разоў і выйшаў. Старшы сержант Папоў, задумаўшыся, глядзеў яму ўслед. Гэтаму здаравеннаму высокаму бландзіну ніяк не падыходзіла шафёрская скуранка. І яшчэ гэта ліслівасць. Ён узяў у рукі ліст паперы з заявай немца і яшчэ раз перачытаў яе:

„У Савецкую камендатуру раёна Стары горад у Кенігсбергу.

Заява.

У час блакады горада Чырвонай Арміяй нямецкія войскі пакінулі ў доме на вуліцы Штайндам некалькі скрынь з кансервамі, якія на наступны дзень павінны былі быць раздадзены насельніцтву. Ноччу, аднак, дом разбамбілі, і кансервы да гэтага часу знаходзяцца пад руінамі. Працуючы шафёрам у магістраце, я перавозіў гэтыя скрыні ў вышэйпамянёны склад. Прашу пана таварыша каменданта даць дазвол адкапаць скрыні, паколькі кансервы напэўна прыгодныя для ўжывання.

З вялікай павагай Франц Белоф.

Кенігсберг Ост-Понарт, Песталоцііштрасэ, 18, кв. 4".

Старшы сержант паправіў гімнасцёрку і ўвайшоў у кабінет каменданта, капітана Сяргея Рычкова. Паклаўшы на стол заяву, ён сказаў:

— Гэты немец зноў прыходзіў. Прынёс заяву. Віляе, як ліса вакол вароны з сырам. Ведаў аб гэтых кансервах у канцы сакавіка, мы занялі горад дзесятага красавіка, а яму толькі цяпер іх захацелася. Таварыш камандзір, тут штосьці не так. Гэты фрыц падобны на такога, што следу не пакіне, а кроў вып'е.

— Бадай, вы маеце рацыю, — задумаўся Рычкоў. Ён прабег вачыма заяву. — Дазвольце, гэта ж на Штайндамштрасэ, правільней, на Жытомірскай, — паправіўся ён. Гэту вуліцу мы будзем расчышчаць на наступным тыдні. Скажыце аб гэтым Белофу. Калі кансервы не сапсаваліся, то яны будуць раздадзены нямецкаму насельніцтву, а ён атрымае свае пяць працэнтаў за знаходку. Спадзяюся, што застанецца задаволены? — спытаў ён не то ў сябе, не то ў Папова. — Вось яшчэ фрукт, як пачуў аб расчыстцы, адразу з'явіўся. Нябось усё хацеў бы загрэбсці. Праліччыўся, прайдзісвет.

Капітан узяў заяву і напісаў на ёй „адмовіць", потым распісаўся і паставіў пячатку.

* * *

У моры ўжо некалькі дзён бушаваў шторм. Сержант Алёша Чайкоўскі праклінаў на чым свет стаіць і надвор'е, і свой злашчасны лёс, які паслаў яму дзяжурства менавіта ў такі дзень. А больш за ўсё ён злаваўся на сержанта Максіма Папова. Ідучы наперадзе патруля, які складаўся яшчэ з двух салдат, ён думаў аб тым, як адпомсціць фармалісту.

Яны выйшлі на Штайндамштрасэ, перайменаваную ў Жытомірскую вуліцу. Дарога тут была ўжо расчышчана, а каменне і шчэбень ссыпаны на разбітыя або абгарэлыя дамы. Гэту важную магістраль трэба было прывесці ў парадак у першую чаргу.

Імжа перайшла ў дробны дождж, затое туман згусціўся, таму што вецер сціх. Сержант Чайкоўскі накрыўся плашч-палаткай. Яны былі непадалёк ад руін старэйшай кенігсбергскай царквы, якая здаўна называлася польскім касцёлам, калі сержант улавіў нейкія адгалоскі, што даносіліся нібыта з-пад руін паблізу касцёла. Не выклікала сумненняў, што там былі людзі.

Чайкоўскі і салдаты з трох бакоў пачалі падкрадвацца да месца, адкуль даносіліся галасы. Гэта было не так проста. Усюды насыпаны зыбучыя горы цэглы і абломкаў, з якіх тырчэлі абгарэлыя бэлькі, дзверы і аконныя рамы, — і ўсё гэта было слізкім ад дажджу. Як і трэба было чакаць, у нейкі момант адзін з салдат, узбіраючыся на такую барыкаду, спатыкнуўся ў цемры аб цагліну, і тая з грукатам пакацілася ўніз.

Узняўся страшэнны шум, і толькі крыху пазней далацеў тупат людзей, якія ў паніцы ўцякалі.

Трымаючы наперавес аўтаматы, яны пайшлі ўперад. У непрагляднай цемры, на незнаёмай вуліцы ў іх не было ніякай магчымасці затрымаць прышэльцаў, якія ўцякалі толькі ім вядомымі шляхамі. Але сержант працягваў пагоню. Нечакана ён заўважыў цень, што мільгануў за два метры ад яго. Трыма прыжкамі ён падскочыў ззаду і, прыставіўшы да спіны пісталет, скамандаваў:

— Стой! Рукі ўгору!

Цень замёр, паслухмяна выканаўшы загад. І тут сержант заўважыў, што гэта жанчына. У гэты час падбеглі салдаты з ліхтарыкамі. У іх цьмяным святле было бачна, што сярод руін цямнеў велізарны раскапаны квадрат.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

35 гадоў краіне

## З НАРАЎКІ

Юбілей 35-годдзя Польскай Народнай Рэспублікі ў Нараўцы прайшоў надта ўрачыста. Заслужаныя партыйныя і грамадскія дзеячы, радныя, солтысы, моладзь і кіраўніцтва гміны сабраліся на сесіі ГРН у мясцовым кіно „Лес". Вользе Закройшчык, — дырэктару ГОК і Аляксею Харкевічу — працаўніку ЦПН былі ўручаны сярэбраныя значкі „Заслужаны для Беласточчыны". Многія актывісты гміны атрымалі памятныя дыпломы, а найлепшыя гаспадары — карты гаспадароў-спецыялістаў.

У дакладзе начальнік гміны Ю. Навіцкі гаварыў шмат аб дасягненнях мясцовага школьніцтва за гады мясцовай улады. У мастацкай частцы выступіў калектыў Беластоцкай фабрыкі мэблі, з якой гміна Нараўка наладзіла супрацоўніцтва.

**А. З.**

## З ЧАРОМХІ

Рада прафсаюзаў чыгуначнікаў чаромхаўскай станцыі арганізавала з нагоды 35-годдзя ПНР сустрэчу з рабочым калектывам. Удзел прынялі: кіраўніцтва станцыі, I сакратар вузлавога камітэта партыі, прадстаўнікі суседніх станцый — Нурца і Сямяціч, а таксама радны ВРН у Чаромсе Васіль Астапковіч.

Аб працы станцыі і аб дасягненнях коратка расказаў начальнік станцыі Ежы Напюркоўскі, а радны гр. Астапковіч пазнаёміў з рэалізацыяй прапаноў з тэрыторыі нашай гміны.

Заслужаным чыгуначнікам з паравознага дэпо ў Чаромсе рада прафсаюзаў прызнала 36 грашовых узнагарод, па 500 зл. 15 тысяч злотых прызначана на рэчавыя ўзнагароды, якія будуць уручаны на сустрэчы людзей добрай работы.

**(ус)**

## ГМІНА У ЦЫФРАХ

Ужо 35 год мае наша народная дзяржава. З выпадку гэтага юбілею хачу ўспомніць некалькі дадзеных аб гміне Дубічы Царкоўныя. Сяляне маюць 140 уласных трактараў, 64 легкавыя і лёгкагрузавыя машыны: „Тарпаны", „Жукі". 128 чалавек з гміны Дубічы Царкоўныя атрымалі вышэйшую адукацыю і пакінулі свае вёскі.

17 чалавек з Дубіч Царкоўных пасля вайны выехалі ў Савецкі Саюз, але роднай вёскі не забылі і часта наведваюць яе.

**М. Панфілюк**

## ДЗІЦЯЧЫ САД

У будынку мясцовай школы ў Дубічах Царкоўных адкрыты дзетсад. Гэта вельмі добрая форма апекі над малышамі, бо як вядома, цяпер разгар працы — жніво ў сялян. І калі дзеці дашкольнага ўзросту застаюцца адны, дык выпадак можа здарыцца хутка.

У сваім дзіцячым садзе дзеці маюць усё: гульні, сяброўства, смачныя абеды, якія ім рыхтуе мясцовая кухарка Анна Тафілюк. Дзеці лепш тут развіваюцца, тут іх вучаць, тут знаёмяцца яны з вершамі, літарамі, цыфрамі.

І незразумела мне, што ёсць такія бацькі, якія не пускаюць сваіх дзяцей у сад, кажуць, што ім гэта яшчэ ў школе абрыдне.

У дубіцкім дзетсадзе добра апякуюцца дзецьмі дзве выхавацельніцы Ніна Мацкевіч і Анна Куптэль.

**Мікалай Панфілюк**

## ДЗЕ ПАСТАВІЦЬ ВЕЛАСІПЕД?

У Бельску на вуліцы 1 Мая ёсць самаабслуговая спажывецкая крама ВСС № 14. У гэтай краме ёсць усе харчавыя прадукты, крама ўвогуле багатая. Прадаўшчыцы тут таксама ветлівыя.

Адна толькі бяда, што на двары каля крамы няма стаянкі на веласіпеды. Людзі ставяць свае веласіпеды каля сцяны, а гэта непрыгожа, бо гэтак проста аблепяць веласіпедамі сцяну. Добра было б, каб ВСС проста перанёс стаянку, якая знаходзіцца цяпер далей на той жа вуліцы, і паставіў каля сваёй крамы, так як гэта ёсць, напрыклад, на пошце.

**М. Матвеюк**

## Ляшкі былі практычныя

А вось і жніво, зусім ужо не падобнае на колішняе. Цяпер яно адбываецца машынамі і два-тры дні. Калісьці жніво было доўгае. Жалі сярпамі, а потым косамі, і адно толькі жніво азімага працягвалася два тыдні. Потым пачыналася жніво яравога.

Зжатае збожжа, каб яго сабраць з поля, трэба было, як калісьці так і цяпер, добра высушыць. Для гэтага трэба было, каб яно ў снапах пры добрай пагодзе хоць з тыдзень адстаялася. Аднак пагоды заказаць нельга і дождж лье тады, калі непатрэбны. У такім выпадку вада нальецца ў снапы і збожжа псуецца. Таму людзі забяспечвалі зжатае збожжа ад дажджоў. Калісьці гэта рабілі так. Звязаныя снапы састаўлялі ў л я ш к і. Гэта значыць, ставілі дзевяць снапоў разам так, каб яны ўнізе, як у нас кажуць, „гумлямі", былі расстаўлены і каласамі сходзіліся. Потым наверх гэтай дзевяткі клалі адзін каля другога два снапы, а трэцім прыкрывалі, абломваючы яго бакі. І вось калі пачнецца, бывала, дождж, то ў тым ляшку змочыць толькі тыя тры снапы, а ўсе дзевяць снапоў будуць сухія. Калі ж пакажацца сонца, хоць бы на адзін дзень, тады ранкам людзі ідуць і развязваюць толькі тыя тры снапы, рассцілаючы іх на сонцы. Яны хутка высыхаюць, і збожжа ўсё сухое везлі дамоў.

Калісьці, калі я яшчэ сам гаспадарыў, помню два тыдні не было пагоды і ўвесь час ішоў дождж. Аднак у ляшках маіх збожжа не згніла.

А цяпер ляшкаў не ставяць, а ставяць снапы толькі ў „дзевяткі". І вось у дождж у тыя дзевяткі столькі вады нальецца, што трэба вялікай пагоды — тыдзень, каб яны высахлі. Але, напрыклад, у бягучае лета вялікай пагоды яшчэ не было. І ў такім выпадку збожжа часта гніе ў полі. А шкада!

**М. Матвеюк**

## Як ездзяць гарадскія аўтобусы ў Беластоку?

У Беластоку без гарадской камунікацыі няма магчымасці дабрацца на чыгуначны ці аўтобусны вакзалы. Горад расце і вырастаюць новыя раёны, далёкія ад вакзалаў, у якіх з году ў год прыбывае жыхароў. Асноўнай інфармацыяй аб гадзінах курсавання гарадскіх аўтобусаў з'яўляюцца расклады на прыпынках. Да пададзеных там гадзін людзі дапасоўваюць свае выезды з дому, верачы, што МПК давязе іх на патрэбную гадзіну на працу ці на поезд.

Аднак у практыцы выходзіць інакш. Расклады на аўтобусных прыпынках гэта толькі фармальнасць. Тых раскладаў абсалютна не трымаюцца працаўнікі і шафёры МПК.

Вось прыклад. У нядзелю згодна з раскладам язды аўтобуса „1" на вуліцы Леніна каля вуліцы Навоткі першы курс павінен быць у 5.43 раніцы. І сабраліся людзі, чакалі, каб даехаць на цягнік на гадзіну 6.32. Часу ў запасе хапала і жыхары раёна Міцкевіча спакойна чакалі. Ляцелі хвіліна за хвілінай, а аўтобуса не было і не было. Людзі пачалі нервавацца, шумець, наракаць на МПК, што так мучыць іх. Шкада было глядзець на іх, як яны ўжо з самай раніцы ў нядзелю 8 ліпеня гэтак нерваваліся. Спачатку прабавалі затрымліваць легкавыя машыны, якія праязджалі вуліцай, бо аўтобус не паявіўся да гадзіны 6.20. І ўсе ўвесь час ставілі адно пытанне; чаму? Пытаем і мы дырэкцыю МПК у Беластоку — чаму расклады язды на прыпынках вісяць толькі для красы?

**Ян Янтар**

## Непаладкі ў ГСе

У Бельску на вуліцы Гагарына ГС мае свае склады. Ляжыць тут вугаль і злом. Але толькі на адным стаўбе гарыць лямпачка і асвятляе той вугаль і той злом. Мэблевая крама не асветлена і склады з угнаеннямі таксама. Дарагая рэдакцыя, падкажы ГСу ў Бельску, каб папоўніў асвятленне на сваім складзе.

**Румі**

### ВА ЎРОЧЫШЧЫ ТАПІЛЕЦ

У Тарнопалі ёсць урочышча, якое завецца Тапілец. Тут 18 жніўня 1941 года палілася кроў. Нямецкія акупанты забілі Зінаіду Млечка — лекара, Раісу Шаўчэнка — акушэрку (абедзве з СССР), восем жыхароў з Лукі і трох жыхароў Тарнопаля.

Моладзь памятае аб гэтым месцы. Тут пабудавалі помнік. Вучні пад кіраўніцтвам сваіх настаўнікаў з Лукі — Тамары і Янкі Ціванюкоў заўсёды робяць парадак. У гэтым годзе найбольш ахвярна апекаваліся магіламі вучні: Ірына, Міраслава і Славамір Рыгаравічы. Гэта добры выхаваўчы ўрок.

**А. З.**

## Пакрысе будуецца

Будуецца даўней успамінаемая ў „Ніве" дарога паміж Храбаламі і Кнаразамі, якая ідзе праз Рэпнева. Якраз у Рэпневе працуюць цяпер машыны, а на дапамогу ім прыязджаюць вучні з добраахвотнага гуфца працы Бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя імя Тадэуша Касцюшкі.

**Міхал Кірылюк**

### ЯК РАСПАЧАЎСЯ Ў МЯНЕ ГРЫБНЫ СЕЗОН

Неяк раніцай выбраўся я ў грыбы ў Відаўскі лес. Хаджу па лесе, штораз апенька ці лісічка трапіцца. Пахадзіў я гэтак, палюбаваўся прыгожай прыродай, бо дзень быў сонечны, то і добра можна было разглянуцца. Аж калі выходзіў з лесу, заўважыў кучу дзіравых гаршкоў, вёдзер, якія ляжаць у траве пад бярозай. Хтосьці недарэчна прывёз са сто кілаграмаў злому і зваліў, каб іржавеў ён і марнаваўся, аж непрыемна глянуць. Я сеў і падумаў, што стольк і ж дарогі было завезці гэты злом на пункт скупкі злому ў Бельск. Адна дарога — ці з Відава ў лес, ці з Відава ў Бельск — 1 км. А завезці на пункт у Бельск — карысць была б, і грошы. Дзе ж тут розум быў у чалавека, каб так засмяцаць лес?

Можа той, хто гэта зрабіў, прачытае нашу родную газету „Ніву" і падумае: дрэнна я зрабіў. Ды і ляснічы няхай таксама задумаецца, чаму не звярнуў увагі на паіржавелую кучу злому. А ў мяне так вось і распачаўся грыбны сезон, калі я адкрыў, што ў лесе можна збіраць не толькі грыбы, але і злом.

**Румі**

### БРАВА, КРЫВЯЦІЧЫ!

У пачатку ліпеня жыхары Крывяціч пры дапамозе гмінных улад у Орлі клалі пліткі на тратуарах у сваім сяле. У гэтым годзе сяло Крывяцічы на ўсю даўжыню будзе мець тратуары.

Моладзь упарадкавала наваколле каля мясцовай святліцы, адрамантавала драўляны дэкаратыўны плоцік на „зялёным астраўку", які знаходзіцца пасярэдзіне сяла. Сапраўды стала прыгажэй!

**Іван Кірызюк**

## Дрэнацыя ў Кнаразах

Нядаўна я пісаў пра меліярацыю ў нас. А за меліярацыяй вядома, ідзе дрэнацыя. Ужо працуюць спецыяльныя машыны. Праўда, шкада глядзець, як марнуюць пры гэтым пасевы, што ж аднак зробіш, інакш дрэнацыі не выканаеш.

**Міхал Кірылюк**




На дарозе, якая ідзе з Дубіч Царкоўных у Палічну, адразу ж за Дубічамі на асфальце нядаўна ў час жары калёсы вазоў і аўтамашын страглі ў гарачай смале. Цяпер, пасля рамонту гэтага асфальту, на той жа дарозе засталіся вострыя ямы і калдобіны, на якіх можна скруціць шыю ў час язды. Кажуць: паладзіў кум дзверы, праз якія лазілі каты, а цяпер сабакі лазяць. Во рамонт!

**П. Д.**

### НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Трагічны выпадак здарыўся ў Гайнаўцы на вул. Варшаўскай. 32-гадовы мужчына, едучы матацыклам „Ява", з'ехаў на левы бок і ўдарыў у тэлефонны стоўб. Забіўся на месцы.

У Курашаве, гм. Чыжы, згарэла драўляная стадола, пакрытая этэрнітам, вартасці 120 тыс. зл.



## АВГАЛОСКІ

### НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ДА АРТЫКУЛА „УСПОМНІМ ТЫЯ ДНІ"

Для нашай вёскі пачатак вайны аказаўся трагічным. Людзі гавораць таму, што ляжыць яна паміж шашой і чыгункай. Мо гэта і праўда. Хто толькі едзе, заўсёды ў Стараберазова загляне. Калі гэта добрыя людзі — міласці просім. Беларусы — гасцінныя гаспадары. Ды няпрошанымі былі для нас нямецкія захопнікі. Спачатку дапытваліся, ці няма рускіх у вёсцы. Потым вялі сябе, як дома. З поўдня вёскі пралягла чыгунка Гайнаўка-Бельск. Стаяла там мноства таварных вагонаў. Не дайшлі яны да месца прызначэння. Немцы ў вёсцы гаспадарылі ваўсю. Людзі былі перапалоханыя. Не ведалі, што рабіць, што будзе.

Аж раптам ад чыгункі пачаўся моцны бой. Гэта трапалі немцаў адступаючыя савецкія часці, аб якіх у 25 нумары „Нівы" ўспамінаў М. Панфілюк. Пачуліся крыкі і лаянка немцаў. Пакуль апамяталіся, мноства іх загінула. Аднак савецкія байцы вымушаны былі адступіць у напрамку Белавежскай пушчы.

Калі закончыўся бой, немцы азвярэлі. Прыгналі некалькіх сялян пахаваць сваіх. Калі людзі выканалі загад, іх расстралялі. Былі гэта першыя нявінныя ахвяры вайны. Пад вечар далі загад: усім пакінуць вёску і чакаць на пасавым. Людзі зышліся за вёскай — старыя, малыя і маці з дзецьмі. Немцы прыехалі на матацыклах, пашваргаталі і вярнуліся ў вёску. Хтосьці загаварыў. расстрэльваць будуць. Заварушыліся людзі, хто з чым быў разбегліся ва ўсе бакі. Мо гэта і выратавала людзей ад гібелі. Надышоўшы вечар і ноч асвяціліся вялікім полымем агню над вёскай. А на наступны дзень людзі на сваіх сялібах засталі толькі пагарэлы дабытак. Так пачалася вайна для вёскі Стараберазова, вёскі, якая ў часе вайны панесла мноства страт і ахвяр.

**Г. Мароз**

### ДА ПУБЛІКАЦЫІ „ПЕРШЫЯ ДНІ ВАЙНЫ Ў ДУБІЧАХ ЦАРКОЎНЫХ" М. ПАНФІЛЮКА.

Я вельмі цешуся, што хтось з маіх землякоў даў хоць кароткі нарыс трагічных дзён, першых дзён лета 1941 года. Я не хачу паўтарацца, але тых пару дзён, апісаных М. Панфілюком, хачу паглыбіць.

1. Праўда, што савецкіх салдат у баі на апісваемым участку загінула многа. Але і нямецкіх не менш, бо нават не здолелі іх падабраць усіх. Многа яшчэ грабаўляне закопвалі ля шашы і на лонцы каля рэчкі. Нават там загінуў нейкі высокі афіцэр, якога везлі на машыне праз Грабавец.

2. Часць Чырвонай Арміі, якая выбіла эскадрон кавалерыі ворага ля царквы, прыйшла з крывяціцкага лесу „Княжына". Гэтая часць у „Княжыне" апынулася ў першы дзень вайны. І, на маю думку, яна прадаўжала лінію абароны аж да Орлі. Але гэтая часць аказалася адрэзанай ад галоўных сіл. Камандаванне часці не ведала, у чым справа. І хацела бараніцца на сваю руку, але немцы туды не падыходзілі. Тады яны вырашылі разведаць ваколіцу, дзе можна было б прарвацца да сваіх, ведаючы, што дарогамі ўсюды ідуць немцы. І вось 26 чэрвеня зрабілі сабе „прасвеку" праз Дубічы Царкоўныя і пайшлі ў Белавежскую пушчу, дзе арганізавалі партызанку.

3. Гэты эскадрон варожай кавалерыі, які „растапіўся" ў агні савецкай зброі пад Дубічамі, астанавіўся начаваць у Грабаўцы, у нас на панадворку, у садзе і ў агародзе. Пасля аднак прыехаў аднекуль сувязны і, відаць, прывёз загад, каб падыйшлі два кіламетры ўперад. Была ноч. Добра, што такі загад прыйшоў, бо ў Грабаўцы можа нічога не ўцалела б.

**Васіль Петручук**

